© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

СВАБОДА

№ 3 студзень 1994 г.

Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56

# Курапаты: прэзыдэнтам уваход забаронены!

Наведваньне Клінтанам Курапатаў сусьветная прэса падала як самую галоўную навіну візыту амэрыканскага прэзыдэнта ў Менск

**За гэты розгалас варта падзякаваць у тым ліку і нашай намэнклятуры. Сваімі бязглуздымі спробамі не дапусьціць Клінтана ў курапацкі лес яны прыцягнулі яшчэ большую ўвагу прэсы і дапамаглі зрабіць Курапаты цэнтральнай падзеяй візыту.**

А змагалася намэнклятура адчайна. Мы даведаліся, што 13 студзеня Прэзыдыюм ВС накіраваў у амэрыканскую амбасаду пісьмовы зварот наступнага зьместу: беларуская спэцслужбы ня могуць гарантаваць бясьпеку прэзыдэнта Клінтана падчас наведаньня ім Курапатаў; таму прапануем замест Курапатаў наведаць Курган Славы і там устанавіць мэмарыяльны знак. Праз трынаццаць гадзін амэрыканцы далі адказ: калі вы ня здольныя, то мы самі забясьпечым гарантаваную бясьпеку свайго прэзыдэнта. Але ў самы апошні момант амэрыканскі бок усё ж пагадзіўся перанесьці Курапаты на завяршэньне праграмы візыту.

Біл Клінтан прыехаў у Курапаты на зьмярканьні, амаль а 16-й гадзіне. Па дарозе на лясную гару Зянон Пазьняк распавёў прэзыдэнту падрабязнасьці трагедыі курапацкага лесу, дзе, па ягоных зьвестках, на працягу 1937—41 гг. сталіністы амаль штодня расстрэльвалі людзей — 250 тысяч чалавек, як падлічыў Пазьняк, спачываюць тут.

Здаецца, найбольш кранўў прэзыдэнта той момант, калі дзеткі сьпявалі «Магутны Божа». Біл Клінтан узяў за руку адну зь дзяўчынак (гэта была Рута Вячорка) і разам зь ёю паставіў сьвечку на мэмарыяльны знак, дзе па-беларуску і ангельску было выбіта: «Ад народа Злучаных Штатаў Амэрыкі народу Беларусі дзеля памяці. 15.01.94.» «Памятайце, дзеці, — сказаў прэзыдэнт ЗША, — што самая найвялікшая каштоўнасьць — гэта свабода. Яна дапаможа вам зрабіць сваю краіну квітнеючай дзяржаваю».

Несумненна, Білу Клінтану было прыемна пачуць ад Пазьняка, што «Магутны Божа» — «гэты духоўны гімн беларускага народа» — напісаны Натальляй Арсеневай, цяпер грамадзянкай Злучаных Штатаў, якую ўратавала ад камуністычнага генацыду эміграцыя на Захад.

Кранальным было таксама знаёмства прэзыдэнта зь сябрамі «Мартыралёгу Беларусі». «Пан Прэзыдэнт, у Курапатах ляжаць усе мае сябры, і я мог тут ляжаць», — сказаў паэт Сяргей Грахоўскі, які правёў у сталінскіх лягерах 19 гадоў. Расчуліла знаёмства з Маяй Кляшторнай, бацька якой паэт Тодар Кляшторны «магчыма тут таксама пахаваны», а сама яна ў двухгадовым узросьце была кінутая за калючы дрот і вярнулася зь лягераў толькі праз сямнаццаць гадоў. Пазьняк прадставіў прэзыдэнту таксама рэктара Акадэміі мастацтваў Васіля Шаранговіча, археолягаў Валянціну Вяргей, Алега Іова, МіколуКрывальцэвіча, Георгія Штыхава, дэпутата Валянціна Голубева, мастакоў Льва Талбузіна і Алеся Марачкіна...

Здымкі з Курапатаў апублікавалі, як нам паведамілі зь Нью-Ёрка, амаль усе буйныя амэрыканскія газэты.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

Зянон Пазьняк знаёміць Біла Клінтана зь сябрамі «Мартыралёгу Беларусі».

## Ахова не драмала

**Па нашых зьвестках, за некалькі гадзінаў да прыезду Клінтана ў Курапаты паблізу ў лесе былі затрыманыя двое паляўнічых са стральбамі.**

Шэф службы аховы КДБ Мікалай Ільлюк пацьвердзіў гэта, але падкрэсьліў, што паляўнічых затрымалі па-за зонаю ачапленьня. А ў самой жа зоне ніякіх нечаканасьцяў не здарылася. «Усё было загадзя шчыльна ачэплена, лес прачасаны».

Напярэдадні візыту амэрыканскага прэзыдэнта ў нас таксама зьявілася інфармацыя, што з адной вайсковай часткі зьбег салдат з аўтаматам Калашнікава. Але, як высьветлілася, доўга ён ня бегаў. Па словах М.Ільлюка, праз тры гадзіны салдата затрымалі.

(Працяг на 2-й стар.)

# Як мы сустракалі Клінтана

15 студзеня. 8.30. Аэрапорт «Мінск-2». Аўтобус з шыльдачкай «Прэса».

«Господа журналисты!» — зьвяртаецца да нас непрыкметнага выгляду мужчына ў бобрыкавай шапцы са службы бясьпекі, які прыстаўлены апекаваць прэсу. Ён тлумачыць, што амэрыканцы мелі прыкры досьвед замаху на свайго прэзыдэнта, а таму «весьма щепетильны» у пытаньнях аховы. За тры хвіліны да таго прадстаўнікі сталічнай прэсы зухава цікавіліся адзін у аднаго, ці не забыўся хто ўзяць з хаты свой «калашнікаў»...

Па радыё гучыць рэпартаж аб разьвітаньні з амэрыканскім прэзыдэнтам у маскоўскім аэрапорце. Ён гаворыць, што будзе маліцца, каб у расейцаў усё было о'кей. Прылёт прэзыдэнта ў Менск яўна зацягваецца. Зрэшты, надвор'е ня дужа лётнае. Зямлю ўкрывае раніўняя імгла, бачнасьць — на вока — мэтраў 250—300. Праўда, чырвоны Boeing з амэрыканскімі журналістамі ўжо прызямліўся. Частка іх засталася ў аэрапорце, а астатнія зьехалі ў горад.

Самалёт з амэрыканскімі экспэртамі павінен прызямліцца ў 10.20, яшчэ праз 10 хвілінаў прыляціць прэзыдэнт. У нас глядзяць акрэдытацыйныя карткі і кожнага правяраюць (прыборам у выглядзе лапаткі) на наяўнасьць зброі.. Высьвятляецца, што ўсе журналісты безбройныя. Нас запускаюць на лётнішча ў загарадку. Мы ачэпленыя цывільнымі з шыльдачкамі «СБ» (служба бясьпекі) на грудзёх. Тут жа і амэрыканскія ахоўнікі з цупкім натрэніраваным поглядам. Адзін гогалем пахаджае туды-сюды, запхнуўшы ў кішэню паліто мышынага колеру шэрую заечую шапку.

Не пасьпелі тэлеапэратары і фотарэпарцёры заняць пазыцыю чым бліжэй да невысокага чырвонага пастамэнту, падрыхтаванага, безумоўна, для высокага госьця, як бясьпека загадала ўсім адысьці назад і пакласьці апаратуру долу, адступіўшы на 2—3 крокі.

(Працяг на 2-й стар.)



Здаецца, самым галоўным чалавекам пры сустрэчы прэзыдэнта Клінтана ў аэрапорце быў Міхаіл Хвастоў — начальнік пратакола МЗС Беларусі.



Здымкі Аляксандра КУШНЕРА

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ПРЭЗЫДЭНТ УСЁ ЗРАЗУМЕЎ

**«Я ўпэўнены, амэрыканскі прэзыдэнт выдатна зразумеў, што на Беларусі пры ўладзе знаходзіцца антыдэмакратычны ражым», — так заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ пасьля сустрэчы зь Білам Клінтанам лідар БНФ Зянон Пазьняк.**

Дэпутат Уладзімер Заблоцкі, які таксама ўдзельнічаў у гэтай сустрэчы, перакананы, што пакуль нам ня варта разьлічваць на сур'ёзнае супрацоўніцтва са Злучанымі Штатамі. «Амэрыка будзе чакаць, пакуль не адбудуцца новыя выбары і не пачнуцца сапраўдныя рэформы», — лічыць ён.

Гэтая сустрэча Біла Клінтана з апазыцыяй замест запланаваных дзесяці хвілінаў доўжылася больш за дваццаць. З гэтай прычыны С.Шушкевічу і В.Кебічу давялося трохі памерзнуць, чакаючы прэзыдэнта на плошчы Перамогі.

Публіка паўсюль сустракала прэзыдэнта з энтузіязмам. Але сваіх кіраўнічкоў лаялі як маглі — за тое, што нават не дадумаліся паінфармаваць сваіх грамадзянаў, якія шляхі будуць перакрытыя для руху транспарта. Напэўна, улады патрацілі ўсе сілы і час толькі на тое, каб перакруціць праграму візыту, не дапусьціць Клінтана ў Курапаты, а таксама паспрабаваць падсадзіць сваіх людзей на сустрэчу Клінтана з апазыцыяй.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



Прэзыдэнт Клінтан разьвітваецца зь менчукамі на плошчы Перамогі.



# Інцыдэнт каля Жалезнага Фэлікса

**Тым часам, як тысячы жыхароў беларускай сталіцы прыйшлі на праспэкт Скарыны, каб вітаць амэрыканскага прэзыдэнта, купка менскіх камуністаў (каля 50 чалавек) выйшла пратэставаць супраць візыту Біла Клінтана.**

З чырвонымі сьцягамі і плякатамі адыёзнага зьместу яны сабраліся каля помніка Жалезнаму Феліксу, насупраць КДБ. Паводзілі сябе досыць агрэсіўна, аднак міліцыя ніяк не рэагавала. У выніку — здарыўся інцыдэнт.

Асьпірант Інстытута гісторыі Акадэміі навук Алег Дзярновіч, выпадкова праходзячы тут, зьдзівіўся абразьлівасьці плякатаў і, паказаўшы на адзін зь іх, які заклікаў «гнаць амэрыканцаў зь Беларусі разам з Шушкевічам», іранічна запытаўся ў пікетчыкаў: «І гэта ўсё, што вы можаце?» На хлопца адразу кінуліся разьятраныя камуністы, зьбілі зь яго барэт, схапіліся за куртку... «Ня ведаю, што мяне спыніла, але я зразумеў, што лепш не адказваць на іхнія ўдары, — распавядае А.Дзярновіч. — Калі ў мяне над галавой апынуўся іхні плякат, я сарваў яго. З крыкам «Агент ЦРУ!» камуністы наваліліся на мяне».

Нарэшце зрэагавала міліцыя і літаральна вырвала сп.Дзярновіча з натоўпу. Двое міліцыянтаў пад рукі павялі яго ў «апорны пункт правапарадку». Нечака для сябе А.Дзярновіч высьветліў, што ён, аказваецца, не пацярпелы, а хуліган. У яго сканфіскавалі ўсе рэчы і павезьлі ў Ленінскі райаддзел міліцыі. Там ужо не зьвярталі ўвагі на пратэсты сп.Дзярновіча, што менавіта ён — пацярпелы. Загадалі выцягнуць шнуркі і папругу ды пачалі складаць паперы. Спачатку «шылі» «арганізацыю масавых беспарадкаў», але, параіўшыся з начальствам, спыніліся на «хуліганстве». На падставе рапартаў двух міліцыянтаў у пратаколе запісалі, што А.Дзярновіч «пытался устроить драку с гражданами митингующими». У якасьці штрафу ў яго забралі 40 тыс. рублёў з 49 тыс., якія ён меў пры сабе (амаль уся асьпіранцкая стыпэндыя).

Нам невядома, зь якой прычыны міліцыянтам захацелася зрабіць пацярпелага чалавека вінаватым. Напалохаліся агрэсіўных камуністаў? Акрамя таго, як высьветліла газэта СВАБОДА, у сп.Дзярновіча забралі 40 тыс. рублёў незаконна, бо рашэньне аб ягоным пакараньні ніхто не выносіў.

«Усё, што адбылося, асабіста для мяне сталася добрай сацыяльнай школай, — сказаў А.Дзярновіч карэспандэнту СВАБОДЫ. — Камуністычныя радыкалы будуць існаваць у нас, відаць, яшчэ доўга. Але, калі б мы жылі ў грамадзянскай супольнасьці, дык камуністы і нармальная частка грамадзтва маглі б спакойна суіснаваць у паралельных сусьветах, не перашкаджаючы адзін аднаму хаця б фізычна. А ў нас, як я пераканаўся, калі камуністы рэальна выйдуць на вуліцы ды пачнуць чыніць свой тэрор, — нас ніхто ня будзе бараніць. Нам давядзецца спадзявацца толькі на саміх сябе».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Як мы сустракалі Клінтана

*(Пачатак на 1-й стар.)*

Адразу ж зьяўляецца лядашчага выгляду мурын зь белым сабакам, падобным да лайкі, і той дбайна абнюхвае тэхніку.

Пасьля праверкі журналісты кідаюцца назад і ўсчынаецца штурханіна ды сваркі за лепшае мейсца. Адзін наш менскі калега дзівіцца: як гэта амэрыканскі сабака не зрэагаваў на ягоны бутэрброд з каўбасою, які ляжаў у скрынцы разам з фотаапаратам?!

Чакаючы прэзыдэнцкі самалёт, назіраем, як рота ганаровай варты рыхтуецца да сустрэчы прэзыдэнта. Нейкі генэрал, ці не сам міністр абароны, паказвае камандзіру варты, як належыць «цягнуць нагу».

Нарэшце недзе ў 10.48 чуецца шум — і са смугі выплывае бела-сіні Boeing з нумарам на хвасьце «28000». Ён едзе па ўзьлётцы, паварочвае проста на нас, мэтраў за 80 збочвае і выкіроўвае да аэравакзалу.

Аб 11-ай гадзіне сядае яшчэ адзін, гэтаксама выфарбаваны самалёт №29000. Едзе проста, мінае нас, а потым вяртаецца назад. Два тэхнікі з бразгатам цягнуць жалезныя калодкі чырвонага колеру пад колы самалёта. Пад'яздваюць трап. Да яго крочаць С.Шушкевіч з жонкаю і амэрыканскі пасол Д.Суорц. За імі сьляшаюцца зьмерзлыя дзяўчаты ў фальклёрных строях, на галовах — штучныя вяночкі. Нейкі дзядзька ў модная некалі ў Палітбюро шапцы-піражку нясе сьледам каравай.

Праз дальнія дзьверы ў хвасьце самалёта спускаюцца людзі, што суправаджаюць прэзыдэнта. Нечакана мізэрна выглядае амэрыканскі дзяржсакратар побач з ахоўнікамі баскетбольнага росту.

Сячэ ёдкі дождж. Камэры замежнікаў схаваныя ў пляставыя футаралі. Я чую над вухам «excuse me», і над плячом у мяне ўзьнікае вялікі фотааб'ектыў. Пачалося!

З цэнтральнага трапа спускаюцца 5—6 чалавек, а сьледам сыходзяць прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан з Хілары. Сцэна прывітаньня (нас аддзяляе мэтраў 120, таму ня так добра відаць). Вельмі хутка дзяўчаты з караваем кідаюцца бегма прэч. Спадары Клінтан ды Шушкевіч крочаць да ганаровай варты. Афіцэр з шабляй у белых похвах рапартуе па-расейску, шыхт раве «здравия желаем, господин президент!» Гучыць амэрыканскі гімн, а потым «Мы, беларусы...»

Клінтан выглядае вельмі элегантна, ягоны плашч падобны, здаецца, да дырыжорскага фраку. Наш кіраўнік поплеч зь ім глядзіцца пажылым, лысаватым стомленым чалавекам у шэрым паліце. Мы стаім побач, за 12—15 мэтраў.

А потым — шалёная язда ў хвасьце эскорта. Машыны ідуць па абодвух пасах шашы. Абапал дарогі салютуюць жаўнеры ў спэцназаўскіх шлёмах. Рух цалкам перапынены. Уязджаем у горад. Люд валіць натоўпамі па тратуарах, аўтобусы ня ходзяць. На слупах «па-прыяцельску» вісяць побач амэрыканскія ды беларускія сьцягі. Ланцугі ачапленьня, асабліва на «круглым» пляцы. Сьнег счышчаны, абеліск ледзьве ня з мылам вымыты.

Я перакананы, што Б.Клінтану паведамілі аб Лі Харві Освальда (ён меў дачыненьне да забойства Дж.Кэнэдзі), які жыў у Менску, гуляў каля гэтага абеліска, купляў у гастраноме побач таннае віно... Захаваліся здымкі — Освальд непадалёк адсюль разам з жонкаю на беразе Сьвіслачы. Працаваў ён таксама недалёка — на заводзе «Гарызонт». Калі забілі Кэнэдзі, Клінтану было каля 17 гадоў.

А ўвогуле для журналістаў у Менску не было столькі цікавостак, як падчас пабыту амэрыканскага прэзыдэнта ў Маскве. У нас яму не дарылі ягонай жа статуэткі з саксафонам, ён ня граў на «саксе» сола пад акампанэмэнт раяля, нарэшце фірма «Чыквіта» не зафундавала кожнаму менчуку па банане — усё зьелі масквічы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



Асабліва грунтоўна амэрыканскія спэцслужбы чамусьці абшуквалі фотакарэспандэнта газэты «Рэспубліка» Аляксандра Кушнера.

# Ахова не драмала

*(Пачатак на 1-й стар.)*

Мікалай Ільлюк не пажадаў назваць колькасьць людзей, зь беларускага і амэрыканскага бакоў, якія забясьпечвалі ахову прэзыдэнта ЗША. Аднак зь іншых крыніцаў нам вядома, у прыватнасьці, што паўсюль, дзе Біл Клінтан зьяўляўся на публіцы, сядзелі амэрыканскія снайпэры — іх было «больш за 50 чалавек».

Дарэчы, усюды, дзе павінна была ступіць нага прэзыдэнта, шлях папярэдне правяралі два ЦРУшных сабакі.

У ноч перад візытам у амэрыканскую амбасаду і КДБ званілі ананімныя правакатары ды «папярэджвалі», што падчас наведаньня Клінтанам Курапатаў будуць нанесены два мінамётных ўдары. Аналягічныя званкі працягваліся і ў дзень візыту.

Не пашанцавала ў гэты дзень 50-гадоваму адстаўному падпалкоўніку Уладзімеру Пятрову, які прыехаў з Гомля ў Менск, каб паскардзіцца Клінтану на парушэньне ягоных правоў. А 10-й гадзіне раніцы падпалкоўнік запытаўся на вуліцы ў міліцыянта, ці прыехаў ужо прэзыдэнт і як яму зь ім сустрэцца ды пагаварыць. Міліцыянт паабяцаў наладзіць спатканьне і пасадзіў падпалкоўніка ў машыну, нібыта каб адвезьці да Клінтана. Так сп.Пятроў апынуўся ў Першамайскім РАУС, адкуль яго выпусьцілі толькі пасьля таго, як Клінтан зьехаў.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



Пошта

## Апошняе інтэрвію?

Зусім не бяскрыўднай падалася шматлікім радыёслухачам і тэлегледачам Беларусі «гульня ў паддаўкі» паміж Кебічам і купкай журналісцкага начальства зь Белінфарма ды Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі.

Інтэрвіюваньне адбывалася ў службовым габінэце прэм'ера. Пытаньні да Вячаслава Францавіча ставіліся паводле расьпісанай па нотах намэнклятурнай араторыі і ўяўлялі нішто іншае, як партытуру дэзінфармацыі жыхароў сувэрэннай краіны. Дзіву даешся, як на такое пайшлі журналісты, ці ўсьведамлялі яны свой прафэсійны ды грамадзянскі абавязак перад шматмільённай аўдыторыяй суайчыньнікаў.

Адметна, што кола журналістаў, зь якімі прэм'ер набраўся мужнасьці спаткацца перад тэлекамэрай, звузілася да такіх убогіх памераў. Мабыць, з аднаго боку, роля падлявалаў ды алілуйшчыкаў ужо не падаецца ласым кавалкам, дзеля якога прафэсіяналы згодзяцца пэцкаць сваю рэпутацыю, а з другога — дэманстрацыя журналісцкага запалу, вострыя пытаньні, ад якіх Кебічу было б не па сабе, зусім не прадугледжваліся «пратаколам» наладжанага інтэрвію. У рэшце рэшт, на экране рэй вялі больш і менш вопытныя, але прафэсійныя прапагандысты-дэзінфарматары. Дзякаваць Богу, арэшак атрымаўся не такі цьвёрды, каб яго не змаглі раскусіць нават самыя даверлівыя беларусы.

Ян РЫМАШЭЎСКІ

# На сходцы вэтэранаў абмяркоўваюць амэрыканскае кіно

У Горадні існуе клюб вэтэранаў, які штомесяц ладзіць сходы ў Доме афіцэраў. Сюды прыходзіць шмат адстаўнікоў Савецкай Арміі, якія й вядуць рэй. Пры гэтым клюб прэтэндуе на выключную ролю ў грамадзкім жыцьці горада.

Мне давялося трапіць на апошнюю сходку. Яе тэму вызначылі так: «Мы, час і сродкі масавай інфармацыі». Запрасілі журналістаў. Дарэчы, зарэгістравацца спрабаваў нават былы супрацоўнік закрытай пасьля жнівеньскага путчу гаркамаўскай газэткі «24 часа». Як сказаў кіраўнік клюба адстаўны палкоўнік Белікаў, ён «далёк от мысли устроить судилище над прессой — нет, будет откровенный, душевный разговор. Впервые мы пригласили собкоров, аж сердце радуется». Ва ўступным слове ён наракаў на жыцьцё, але гаварыў чамусьці пераважна пра Расею. Паскардзіўся, што газэта «Правда» выходзіць нерэгулярна, а па тэлевізары паказваюць спрэс амэрыканскае кіно.

### Я — свой, я — немец!

Першым запрасілі выступіць прадстаўніка ўладаў — начальніка ўпраўленьня інфармацыі аблвыканкама сп.Лушнеўскага. Той, не мудрагелячы, пачаў апавядаць пра тэхналёгію выпуску раённых газэтаў. Але з залі закрычалі: «Мы нічога не разумеем, нам нецікава!» Начальнік не чакаў падобнай рэакцыі, стаў апраўдвацца з трыбуны: «Да я такой же, как вы, ветеран, читаю «Правду», «Мы и время»...»

Галоўнага рэдактара «Гродзенскай праўды» сп.Багіну таксама сустрэлі непрыхільна, а саму газэту — сьмеху варта! — абазвалі «бэнэзфаўскай».

Прадстаўнік газэты «Во славу Родины» паскардзіўся, што вэтэраны мала яе падпісваюць і па-ранейшаму аддаюць перавагу газэце «другога гасударства» — «Красной звезде». Ён заклікаў прысутных да актыўнасьці: «газета опубликует все, что напишете». Яго выслухалі больш-менш спакойна.

### Вам рускім языком сказана!

Намесьнік галоўнага рэдактара абласнога тэлебачаньня сп.Задаля рызыкнуў выступіць на беларускай мове. Заля ажыла! «Мы не понимаем! — крычалі. — Гнать в шею! Он из БНФ! Националист!» Адзін разьюшаны вэтэран лямантаваў: «Вы же знали, что тут в основном русскоязычные собрались! Почему же по-русски не говорите?!» Спадар Задаля мусіў бараніцца: «Мне ўсё адно, хто тут. У нас усе беларускія грамадзяне. Я вас выдатна разумею, а калі вы ня ведаеце беларускай мовы — гэта вашая ўласная праблема».

### Бурныя апладысмэнты

А потым пачалі выступаць самі вэтэраны. Гаворачы пра прэсу, гарадзенскіх журналістаў, яны спаборнічалі ў падборы азначэньняў кшталту «клевета, наглость, грубость, фальсификация». Падобныя выступы выклікалі шквал воплескаў. Палкоўнік Белікаў падахвочваў прамоўцаў словамі: «Раз уж душа развернулась, надо дать выступить всем! Раз в месяц собираемся!»

Таварыш Алексін умее выступаць — нездарма ж займае пасаду дыктара на футбольным стадыёне. Ды новага ён не сказаў нічога. Пажаліўся, што сёньня не пачуеш песьню «Выходила на берег Катюша», мімаходзь абазваў пісьменьнікаў Валкагонава ды Быкава «перевертышами». Ён таксама падзяліўся яшчэ двума асабістымі меркаваньнямі: «Америка дарит нам масло, от которого многие мчатся в туалет» ды «развалил скороспелый нобелевский лауреат величайшее в мире государство».

А вось тав.Цітоў папрасіў журналістаў: «Пожалуйста, откажитесь от мелкого шрифта, публикации читаются с трудом», — за што атрымаў ухвальныя воплескі з залі. Праўда, перад тым ён заклікаў даць адпор газэце «Пагоня».

Адзін з вэтэранаў выйшаў на трыбуну дзеля таго, каб трагічна паведаміць: «Глоба сказал: до 86-го года мы будем в дерьме». «До 96-го!» — хорам выправілі яго з залі. І запляскалі.

### Абаронцы К.Маркса

Два прамоўцы — таварышы, калі не памыляюся, Фірштэйн і Хаўкін — баранілі камунізм. Першы зь іх абураўся: як гэта можна пісаць, што «Карл Маркс — иждевенец, паразит на теле Энгельса?!» А другі двойчы атрымаў воплескі за фразы: «Я верен партбилету и идеям коммунистической партии!», «И запомните: коммунисты — это люди, которые еще дадут о себе знать!».

### Таварыш палкоўнік пра «настоящую свабоду»

А цяпер працытуем тав.Посахава, які сьціпла назваўся працаўніком аб'яднаньня «Хімвалакно» і прадстаўніком абласнога каардынацыйнага савета Народнага руху Беларусі. Ён сказаў: «Нам надо выдвинуть людей из толщи белорусского народа и привести их к власти. Из цехов, из колхозов, с заводов... «Гродненская правда» погрязла в мелкотемье, не имеет своего лица, журналистское мастерство понизилось... Мы за белорусские песни, за фольклор, но против того, чтобы людей снова вели (хто вёў?! — **У.К.**) железной рукой в будущее. По-настоящему свободной Белоруссия была в СССР, когда мы имели право свободно ездить на Черное море. Мы сейчас закабаленная страна. Создаются долларовые фонды для проведения выборов. Государственная измена!"

Тав.Посахаў умее добра гаварыць. Службу ён скончыў у палкоўніцкай папасе на пасадзе намесьніка начальніка паліт-адзьдзела (ці як яны апошнім часам называліся?). Каб не зьнікненьне СССР, ён мог бы разьлічваць на генэральскія лампасы.

### Прэч эротыку ды рэкляму!

Апроч палітыкі, шмат гаварылі пра засільле на тэлеэкранах амэрыканскага кіно, у якім героі зазвычай — «злодзеі, прастытуткі і наркаманы». Удзельнікі схода, або, як яны самі вызначылі, «заняткаў з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі», прынялі зварот да «Астанкіна». У дакумэнце ганіцца тэлерэкляма ("Русский дом Селенга", деятельностью которого занимается прокуратура, пускает своих рекламных лебедей, когда ему заблагорассудится"), асабліва «Сьнікерса» ды «вкусной пищи для кошек и собак», а таксама эратычныя сцэны, якія нібыта «оскорбляют наших жен, сестер и матерей». Вэтэраны прапануюць стварыць цэнтр для барацьбы зь «некачественной» рэклямай.

Прысутныя вырашылі таксама лістоўна падтрымаць «в неравной и суровой борьбе» дэпутата ВС А.Лукашэнку.

Сябры клюба дамовіліся наступным разам абмеркаваць праблему занядбанага ваенна-патрыятычнага выхаваньня моладзі. Абавязкова будуць запрошаныя адпаведныя адказныя асобы. Заняткі адбудуцца напярэдадні 23 лютага — дня СА і ВМФ.

**Уладзімер КУЗЬМІЧ,**
**афіцэр запасу**

# Мітрапаліт Філарэт супраць Яна Глябовіча

Яшчэ адна канфэсія ніяк ня знойдзе сабе мейсца ва ўжо падзеленым сьвеце

**Генэральны сакратар Сусьветнага Саюза Рэфармацкіх цэркваў доктар Мілан Апачэнскі зьвярнуўся зь лістом да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С.Шушкевіча і да Мітрапаліта Філарэта з просьбаю разгледзець магчымасьць вяртаньня беларускім вернікам-рэфарматам Кальвінскага збору ў Заслаўі, які зараз праваслаўныя лічаць сваёй Спаса-Праабражэнскай царквой.**

Адзін з асноўных гістарычных аргумэнтаў прыналежнасьці гэтае сьвятыні беларускім рэфарматам — Тэстамэнт Яна Глябовіча ад 28 ліпеня 1590 г. У ім гаворыцца, што «гэты збор і ўся фундацыя, мною наданая, мае быць навечна да Збору Эвангелічнага Віленскага далучаная. Або, калі хто з маіх сыноў або патомкаў маіх пры гэтай веры застаецца, тады мае права атрымаць у спадчыну гэты Збор і фундацыю на яго. Ён заўсёды і вечна з дапамогай і абаронай Божай мае абавязак абараняць вызнаньне і Збор Эвангелічны з канфэсіямі рэфармацкімі, гельвецкімі згодна, а не інакш. А для дзетак навучаньня нямала фундую, для міністраў і бакалаўраў, каб з таго карысталіся для выхаваньня добрасумленнасьці і прыстойнасьці».

У сваім адказе Мітрапаліт Філарэт адзначае, што «з разуменьнем ставіцца да адраджэньня ў Рэспубліцы Беларусь аднаго з накірункаў Рэфармацкага руху, што ўзьнік на нашых землях у другой палове XVI ст. Нам вядома, што дзейнасьць найбольш яркіх прадстаўнікоў Рэфармацкай царквы пакінула пэўны сьлед у гісторыі культуры беларускага грамадзтва». Але разам з тым паважаны Мітрапаліт Філарэт «з асаблівым пачуцьцём шкадаваньня і недаўменьня» гаворыць пра шматразовыя запатрабаваньні менскіх рэфарматаў пра вяртаньне ім Кальвінскага збору ў Заслаўі, які «на працягу больш ста пяцідзесяці гадоў належыць праваслаўным жыхарам гэтага горада». Праўда, крыху далей Мітрапаліт Філарэт згадвае і той факт, што Кальвінскі Збор належаў пэўны час каталікам — больш за дзьвесьце гадоў. Калі браць за аснову гэты аргумэнт, то сьвятыняй з большым правам маглі б сёньня карыстацца каталікі. Але праваслаўная царква, дзякуючы падтрымцы ўладаў, прысвоіла. Прычым Мітрапаліт Філарэт згадвае тут і грэка-каталікоў, якія быццам бы валодалі некалі Кальвінскім Зборам у Заслаўі, але потым мясцовая абшчына ўніятаў, па словах Філярэта, прыняла рашэньне «вернуться в ограду православной церкви».

Напрыканцы 80-х гадоў праваслаўныя жыхары горада хадайнічалі аб вяртаньні ім сьвятыні. «Заўважна, што ні адна з канфэсіяў у гэта пэрыяд не зьвярнулася з абгрунтаваньнем сваіх прэтэнзіяў на храм», — піша Філарэт. Між тым усім добра вядома, што тутэйшая творчая інтэлігенцыя была супраць вяртаньня Кальвінскага збору ў Заслаўі праваслаўнай царкве, бо тут месьціўся музэй рамёстваў.

Просьбы рэфарматаў зь Менску аб перадачы заслаўскага Кальвінскага збору, на думку Мітрапаліта Філарэта, «маюць у асноўным эмацыянальную падаплёку і не стасуюцца зь неабходнасьцю рэальнай і ўсебаковай ацэнкі гістарычных, сацыяльных, а таксама маральных аспэктаў гэтае справы». (Відаць, дзеяньні праваслаўнай іерархіі таксама маюць «эмацыянальную падаплёку», калі яна намагаецца захапіць грэка-каталіцкія сьвятыні, не зважаючы ні на што і ні на кога. На жаль, гэта якраз і вызначае ейны агрэсіўны кансэрватызм).

На ліст, які Генэральны сакратар Сусьветнага Саюза Рэфармацкіх цэркваў накіраваў С.Шушкевічу, напісаў адказ старшыня Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў Беларусі А.Жыльскі. Нічога новага ў гэтым лісьце няма. Яшчэ адна канфэсія на Беларусі ніяк не знойдзе сабе мейсца ва ўжо падзеленым сьвеце. Правы большасьці задавальняюцца, а правы меншасьці — проста ігнаруюцца.

Згодна з заканадаўствам, менская абшчына рэфарматаў мае права «распаўсюджваць сваю дзейнасьць толькі на горад Менск», падкрэсьлівае сп.Жыльскі. А рэлігійная абшчына, замест таго, каб «вырашыць пытаньне пра культавы будынак у Менску, вылучыла прэтэнзіі на культавыя будынкі ў Заслаўі і вёсцы Кухцічы Узьдзенскага раёна Менскай вобл.». На мейсцы ж былога Збору ў Менску на вул.Інтэрнацыянальнай (былая Вялікая Зборавая) пабудаваны будынак пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Рэфарматы просяць даць ім іншы пляц для будаўніцтва сваёй сьвятыні ў Менску, аднак гарадзкія ўлады марудзяць.

Як піша далей сп.Жыльскі, «у горадзе Заслаўі няма вернікаў-рэфарматаў. Ды і пастаноўка пытаньня пра перадачу гэтага будынка рэлігійнай абшчыне рэфармацкай царквы горада Менска неправамерная, яна выкліча незадаволенасьць праваслаўнага насельніцтва горада Заслаўя, бо іншых культавых будынкаў у іх няма». (Атрымліваецца, што «незадаволенасьць» вернікаў іншых канфэсіяў старшыню Савета па справах рэлігій не цікавіць). «Што ж тычыцца будынка ў вёсцы Кухцічы, то зараз мясцовыя ўлады маюць намер яго рэстаўраваць. Калі ў Узьдзенскім раёне будзе зарэгістраваны статут рэлігійнай абшчыны рэфармацкай царквы, то тады мясцовыя ўлады разгледзяць пытаньне пра культавы будынак ва ўстаноўленым законам парадку».

Як бачым, вельмі мала спадзяваньняў, што вернікі-рэфарматы пры цяперашніх уладах змогуць вярнуць хоць частку сваёй спадчыны.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Крызыс ёсьць крызыс

**Надзвычай лёгка запэўніцца ў тым, што Беларусь знаходзіцца ў глыбокім эканамічным крызысе, ідучы па Менску.**

Гарадзкія газэты ня раз пісалі, што існуе такая разумная машына, якая сама вызначае, наколькі сьветла на дварэ, ды самастойна ўключае і выключае ліхтары. Мяркуючы па тым, што ліхтары на некаторых менскіх вуліцах зіхацяць і ўдзень, аўтаматыка, відаць, зламалася, а на яе рамонт, вядома, няма грошай... Крызыс ёсьць крызыс.

**Магдалена НЕПАКАЙ**



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



Архіў

# Тайная паліцыя дакладае...

Слова «жандар» звычайна выклікае стандартныя асацыяцыі: жорсткі кат, царскі апрычнік, верны пёс самадзяржаўя.

III Адзьдзяленьне Асабістай Яго Імпэратарскай Вялікасьці канцыляры ўзьнікла ў 1826 г. З гэтага часу ваенна-бюракратычная сыстэма, створаная Пятром І, стала хутка трансфармавацца ў ваенна-паліцэйска-бюракратычную. Роля палітычнай паліцыі ўзмацнілася надзвычайна. Афіцэры корпуса жандараў, прыстаўленага да III Адзьдзяленьня, мелі права выключнага кантролю за ўсімі сфэрамі жыцьця. А галоўны начальнік палітычнага вышуку — шэф корпуса жандараў і III Адзьдзяленьня — стаў асобаю, найболыш набліжанаю да імпэратара.

Час знаходжаньня на гэтай пасадзе графа Пятра Андрэевіча Шувалава расцэньваецца гісторыкамі як восем гадоў жандарскай дыктатуры. У 1866—1874гг. П.Шувалаў меў неабмежаваны ўплыў на Аляксандра II. Нездарма яго пры двары называлі віцэ-імпэратарам. Усемагутны шэф жандараў пастаянна казаў цару пра задумкі страшных ніґілістаў і стараўся пераканаць яго, што толькі дзякуючы дзейнасьці III Адзьдзяленьня жыцьцю імпэратара нічога не пагражае.

Граф П.Шувалаў — фігура каларытная. Выдатны расейскі мысьліцель, дыплямат і паэт Ф.І.Цютчаў характарызаваў яго так: «Пётр па мянушцы чацьвёрты, Аракчэеў жа другі». На адным з паседжаньняў Савета міністраў Шувалаў аб'явіў, што яму, як начальніку тайнай паліцыі, лепш за ўсё вядомы сапраўдны твар кожнай асобы, і запатрабаваў прадаставіць яму права зваьняць па ягоным уласным жаданьні чыноўнікаў усіх ведамстваў. Такое патрабаваньне падалося царскім міністрам занадта крутым, нават напалохала, і яны адмовілі. Не вельмі песьцiў Шувалаў і паліцэйскіх агентаў, не саромеючыся называў іх: «Мои скоты».

Натуральна, што не абышлі ўвагаю «блакітныя мундзіры» — менавіта так часта называлі жандараў праз колеру формы — і Беларусь. Асабліва «потрудились» яны на беларускіх землях у гады паўстаньня 1863—1864 гг. Але і пасьля палітычны вышук на доўгія дзесяцігоддзі, а можна сказаць, і да сёньняшняга дня, вызначаў і вызначае палітычны твар Беларусі. І ня важна, як яны пры гэтым называюцца, — III Адзьдзяленьне ці НКВД, дэфэнзыва ці КДБ...

Да гэтага часу дасьледчыкі падыходзілі да архіваў III Аддзяленьня пераважна як да матар'ялаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху. Але ня толькі палітычныя справы, сапраўдныя ці не, мелі мейсца ў жандарскай практыцы. У сваім жаданьні кантраляваць усе бакі жыцьця III Аддзяленьне ўмешвалася ва ўсё, куды толькі магчыма было ўмяшацца.

Пачытайце вось гэты архіўны дакумэнт — рапарт жандарскага падпалкоўніка з Магілёва. Тут, апрача іншага, ёсьць цікавыя зьвесткі пра тое, як гаспадарылі на нашай зямлі «образованные русские».

**Андрэй КІШТЫМАЎ,**
**гісторык**

Секретно
Могилевского жандармского
штаб-офицера
12 августа 1867 г. №80
В г.Могилев на Днепре.

Господину управляющему III Отделением Собственной Его Императорского Величества канцелярии.

О старых столбовых дорогах в Белоруссии и об истреблении лесов.

В Белоруссии сохранился единственный памятник русской старины, это большие столбовые дороги, обсаженные громадной величины плакучими березами, современными Екатерине Великой. Величественные деревья эти не принадлежат здешней фауне, но перенесены сюда с другой почвы. Часть этих дорог осталась почтовыми трактами доныне и состоит в ведении казны, а другая, вследствие сооружения шоссейных и железных дорог, служит только для движения купеческих караванов и перешла в частную собственность. Правительство, однако же, оберегает и сии последние дороги наравне с казенными, хотя за порчу на них дерев и не назначило штрафа по 1 руб. серебром за дерево, как на дорогах первой категории. Даже невежественная рука белорусского крестьянина пощадила эти народные памятники древности, и сами польские землевладельцы не смели коснуться их святотатственным топором.

Между тем, рука образованного русского помещика, недавно здесь появившегося, успела уже посягнуть на этот памятник, из видов корысти.

В Могилевском уезде есть имение Любуж, купленное недавно, на ссудные деньги, от помещика Солтана состоящим для особых поручений при Главном начальнике Северо-Западного края полковником генерального штаба Александром Федоровичем Бартоломеем. Первым делом нового владельца, не живущего в имении, но помышляющего, как бы поболее извлечь из доставшегося ему даром имения, — было продать смологонам из Чернигова всю кору с берез старой дороги, проходящей через имение его на протяжении пяти верст. Смолопромышленники исполнили эту операцию с неслыханным варварством: они ободрали всю кору с деревьев до белого ствола, от самой макушки до подошвы, саженей на 6 или на 7 в высоту, так что глядя на эти вековые деревья, долженствующие теперь усохнуть и пойти на дрова, возмущается всякое человеческое чувство. «Вот какие варварства делают новые русские хозяева», — говорят лица польского происхождения, обязанные продавать имения свои русским.

Описанную выше операцию видел волостной старшина и донес о ней становому приставу, тот в свою очередь исправнику, и пока длилась вся эта рутинная формальность и исправник съехал на место, — все уже было кончено: деревья погибли.

Полковник Бартоломей, узнав о приезде исправника, сам был у губернатора и пренаивно сознался, что продал деревья, наравне со своей лесной дачей, считая их своей собственностью. Он боялся одного только, чтобы с него не потребовали штрафа по 1 руб. серебром за дерево, но губернатор успокоил его на этот счет совершенно.

Вообще, истребление лесов в Могилевской губернии производится в ужасных размерах. В торговые дни города запружены телегами с дровами, бревнами, балками, брусьями, обручами, дубовой и липовой корою. Все это продается за бесценок и каждым почти домовладельцем покупается без особой надобности, потому только, что дешево. Видя весь этот лес, наваленный пред дворами и на дорогах, в городах и селениях, и встречая в базарные дни длинные вереницы возов, тянущихся по всем направлениям к городам с лесом, до того еще сырым, что с него буквально течет еще сок, невольно надобно придти к убеждению, что крестьянин выехал на рынок проржиком, с одним только топором, и по дороге заехал в лес за товаром. В особенности безжалостно истребляются здесь липа и дуб.

Конец этому мог бы положить особый контроль со стороны местной полиции, которой не следовало бы впускать в города крестьян с лесом без предъявления ими билетов от волостных старшин или владельцев лесов на право порубки и продажи.

Обо всем этом имею честь представить на благоуважение вашего превосходительства.

---



Зьбігнеў СЬВЕНХ

# Закляцьце Казімера Ягайлавіча

*Пачатак у №№1,2*

Летапісцы пасьля занатуюць факт, што біскуп Бэнэдыкт Война моцна хварэў і ўжо 2 красавіка 1615 г., у прадчуваньні хуткае сьмерці, склаў у Варшаве тэстамэнт. Амаль усе свае грошы і нерухомую маёмасьць ён адпісаў «на ўзбагачэньне аздобаў катэдральнага касьцёла ды на набыцьцё касьцельнага начыньня». Удзячная капітула зьмясьціла на калоне за амбонам пасьмяротны надпіс з ухваленьнем дабрачыннасьці ды заслугаў гэтага біскупа: «Пачэсны прыклад духоўнага і сэнатарскага чыну, кіраваў ён касьцёлам 15 гадоў. Шмат касьцёлаў з рук ерэтыкаў вырваў, аднавіў пашану сьв.Казімеру і цела ягонае ў лепшым месцы паклаў. Айчыне парадай, клопатам і руплівасьцю сваёй дапамагаў. Выехаўшы ў Італію на лекі, памёр у Падуі 22 кастрычніка 1615 года». Да таго ж капітула перанесла ягоныя парэшткі ў Вільню і пахавала ў скляпеньнях Катэдры.

А цяпер пераходзім да апісаньня, бадай, найважнейшага ў гэтай аповесьці. Усё, пра што расказваецца, мае дачыненьне непасрэдна да Каралеўскай капліцы, ад якой бярэ пачатак наш аповед. **НАСТУПНІК БЭНЭДЫКТА ВОЙНЫ, БІСКУП ЯЎСТАХ ВАЛОВІЧ**, узяўся аднавіць і аздобіць Каралеўскую капліцу, у якой раней спачываў сьв.Казімер, і даручыў кіраўніцтва работамі Пётру Данкерсу, знакамітаму архітэктару і мастаку, які, па даручэньні караля Жыгімонта III Вазы, надаў новы выгляд капліцы сьв.Казімера, або новай Каралеўскай капліцы. Сьведка тых падзей Загорскі пісаў: «Першапачатковая Каралеўская капліца, у якой былі пахаваныя князь Аляксандар і дзьве каралевы і дзе адразу ж пасьля сьмерці былі зьмешчаныя парэшткі сьв.Казімера, не адпавядала свайму прызначэньню, бо была цесная, цёмная і месьцілася занадта далёка ад вялікага алтара».

Кароль Жыгімонт III вырашыў пабудаваць новую, больш велікапышную Каралеўскую капліцу і выбраў для яе мейсца ў паўднёвым нэфе насупраць Вялікага алтара з боку Ніжняга замку. За сучаснай капліцай Марыі Магдалены, куды пакладаліся труны біскупаў, на пачатку XVII ст. была невялікая каплічка, фундаваная біскупам князем Паўлам Гальшанскім. Пазьней яна перайшла ва ўласнасьць канцлера Льва Сапегі, а потым ён **перадаў яе біскупу Яўстаху Валовічу.** За тою капліцай яшчэ заставалася вольнае мейсца, да ўсяго ж з таго боку былі дзьверы, праз якія кароль і ягоная дружына ўваходзілі ў касьцёл. Менавіта гэтае мейсца **выбраў Жыгімонт Ваза для новай Каралеўскай капліцы.** Дамовіўшыся зь біскупам Валовічам, ён прывілеем ад 8 сакавіка 1624 г. **перадаў яму ва ўласнасьць старую Каралеўскую капліцу.** Праўда, Загорскі сьцьвярджае, што пабудову капліцы Данкерсу даручыў ня біскуп Валовіч, а сам кароль Жыгімонт III. Так ці інакш, але гэта Данкерс разам з Валовічам, каралём Вазам ды ягонай другой жонкай Канстанцыяй пераносілі парэшткі з папярэдняй капліцы. Да гэтага мы яшчэ вернемся, але найперш паспрабуем перадаць гістарычны выгляд створанай Данкерсам капліцы.

Тое, што дойлід і знакаміты мастак Пётра дэ Ры-Данкерс (гэта ягонае поўнае імя) пасьпяхова справіўся з заданьнем, ані не выклікае сумненьняў. Будаўніцтва вялося на працягу многіх гадоў і закончылася толькі пры каралі Ўладыславе IV у 1636 г. Пры ўзьвядзеньні новай Каралеўскай капліцы Данкерс выкарыстаў найлепшыя матар'ялы: пясчанік вазілі са Швэцыі, а мармур — зь Італіі ды Карпатаў. Перад капліцаю, пабудаванай Данкерсам, стаялі ў захапленьні чужаземцы, зьвыклыя да агляданьня дзівосных сьвятыняў. Сучасьнікі адзначалі, што гэта была найцудоўнейшая сьвятыня краю. Гэта значыць, што капліца была яшчэ больш велікапышная за вавэльскую!

У 1-й палове XIX ст. знайшоўся чалавек, які здолеў устанавіць першапачатковы выгляд капліцы. Гэта вядомы дасьледчык старажытнасьці, прафэсар Віленскага ўнівэрсытэту Міхал Гамаліцкі. На падставе зьвестак, што захаваліся ў актах віленскай капітулы, вучоны адзначаў, што новая Каралеўская капліца захавала свае памеры, але ў астатнім значна зьмяніла выгляд. **ДЫК ЯКІ Ж БЫЎ ПЕРШАПАЧАТКОВЫ ВЫГЛЯД НОВАЙ КАРАЛЕЎСКАЙ КАПЛІЦЫ?**

Мармур, паркет, некаторыя карціны і фрэскі засталіся некранутымі да 1-й паловы XIX ст. Але замест гіпсавага барэльефу над алтаром узвышаўся магутны крыж зь фігураю Збавіцеля ў натуральную велічыню, адліты з чыстага срэбра. Над крыжам, таксама велічынёю з чалавека сярэдняга росту, адлітыя са срэбра статуі Дзевы Марыі, сьв.Яна і ўкленчанай Марыі Магдалены. Па-над алтаром два анёлы са срэбра падтрымоўвалі срэбную, багата аздобленую золатам дамавіну з парэшткамі сьв.Казімера — дар караля Жыгімонта III. Зьвярталі на сябе ўвагу восем высокіх статуяў на алтары, па тры футы вышыні кожная, адлітыя са срэбра. Гэта былі шэдэўры найзнакамiцейшых майстроў пазалотнага майстэрства. Статуі прыгожа вылучаліся на фоне алтара з чорнага разьбянага дрэва.

Шаснаццаць рознай велічыні кандалябраў ды дзьве вазы для кветак дапаўнялі карціну, і ўсё гэта было са срэбра, з багатай пазалотаю, далікатнай старасьвецкае работы. Па абодва бакі ад алтара каля прыступак узвышаліся два вялізарных срэбных кандалябры з выявамі сьв.Казімера. Перад алтаром сьвяцілася лямпа з чыстага золата — дар каралевы Цэцыліі Рэнаты, што была запаленая ўпершыню яе ўласнаю рукою ў прысутнасьці мужа, Уладыслава IV, за тры тыдні **да яе раптоўнай сьмерці.** Праўда, некаторыя аўтары сьцьвярджаюць, што гэта каралева Канстанцыя, жонка Жыгімонта III, ахвяравала залатую лямпу, а ахвяраваньнем Цэцыліі Рэнаты была срэбная, што вісела на магутным срэбным ланцугу. **Дарэчы**, дзіўнае супадзеньне: каралева Канстанцыя раптоўна памерла адразу ж пасьля ўдзелу ў працах у скляпеньнях Віленскае катэдры, маючы 43 гады. А праз 11 гадоў, у няпоўныя 34 гады, таксама нечакана, памірае Цэцылія Рэната, і таксама яе сьмерць непасрэдна зьвязаная з катэдрай. Гамаліцкі дадае важныя зьвесткі. У самым цэнтры капліцы замест крышталёвага павука, што можна было ўбачыць у ягоныя часы, зьвешвалася агромністая жырандоля, акружаная 63 вялікімі срэбнымі сьвяцільнямі (63 — колькасьць гадоў, якія пражыла Дзева Марыя). Гэта быў дар каралевы Канстанцыі. Але запаліць іх яна сама не запаліла, бо чамусьці пасьпешна пайшла з таго сьвята. Тыя сьвяцільні запаліла каралеўна Ганна Катажына ўжо пасьля раптоўнае сьмерці маткі. Сьцяна каля алтара была пакрытая мноствам залатых і срэбных упрыгожаньняў, каштоўных камянёў і іншых ахвяраваньняў, паміж якімі вылучалася ахвяраваная Цэцыліяй Рэнатай чароўная залатая ружа, атрыманая каралевай у падарунак ад Папы. У невялікай алтарні, да якой вялі малыя дзьверы на правы бок ад асноўнага алтара, зьмяшчалася мноства срэбнага, залатога, усыпанага каштоўнымі камянямі посуду, расшытых рызаў дый іншых рэчаў.

Усе тыя каштоўнасьці пайшлі на падмацаваньне казны Яна Казімера, што была вычарпаная доўгай вайною і ўнутранымі сваркамі. Ян Казімер, забіраючы ўсё гэта, абяцаў, што пасьля заканчэньня вайны адновіць ранейшую прыгажосьць капліцы, але абяцаньня не стрымаў, бо неўзабаве адрокся ад трона. Ёзаф Ігнацы Крашэўскі аб гэтым спусташэньні капліцы пісаў: «...Што бацька і брат паставіў, Ян Казімер марнаваць і нішчыць пачаў, назад жа не вярнуў, хоць вярнуць дэкляраваў». Паводле падлікаў Крашэўскага, з капліцы было вынесена 29.200 фунтаў срэбра.

Але не было Жыгімонту III наканавана ўбачыць таго, што задумаў зрабіць. Ён памёр перад заканчэньнем пабудовы, але ягоны сын Уладыслаў IV не занядбаў распачатае бацькам і ў 1636 годзе закончыў будаўніцтва і ўпрыгожаньне капліцы.

**Пераклад П.РАГОЙШЫ**

*Далей будзе*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

